# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 23 (2269) 4 чэрвеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

**24 МАЯ Ў ДЗЕНЬ СВЯТЫХ РОЎНААПОСТАЛЬНЫХ ПЕРШАНАСТАЎНІКАЎ КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ Ў РАСІІ, БЕЛАРУСІ І НА УКРАІНЕ ШТОГОД АДЗНАЧАЕЦЦА СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ.**





**Пачынаючы з 1986 года, у светлыя маёвыя дні ў Расіі, на Украіне і ў Беларусі адзначаецца Свята славянскага пісьменства і славянскай культуры, прымеркаванае да Дня святых роўнаапостальных першанастаўнікаў Кірылы і Мяфодзія. Цэнтрамі свята былі ўжо Мурманск, Волагда, Ноўгарад, Кіеў, Мінск, Смаленск, сёлета — Масква. Усе ўрачыстасці, падзеі, прымеркаваныя да сёлетняга свята, праходзілі пад знакам нязгаснай лампады, запаленай напярэдадні праваслаўнага Вялікадня ў Іерусаліме ад агню каля Труны Гасподняй і пранесенай праз Турцыю, Грэцыю, Балгарыю, Югаславію, Венгрыю, Чэха-Славакію, Польшчу, Украіну і Беларусь.**

**20 мая ў Мінску на плошчы Незалежнасці адбыліся ўрачыстасці. Паломнікаў з Іерусаліма вітаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, кіраўнікі рэспублікі і горада, тысячы мінчан. Потым хрэсным ходам нязгасная лампада была пранесена да Мінскага кафедральнага сабора, дзе ў яе гонар адбылася Вялікодная вячэрня, а раніцай яна накіравалася да граніцы з Расіяй. Выступаючы на мітынгу на плошчы Незалежнасці, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч заклікаў усіх славян да еднасці. «Няхай свяшчэнная лампада,— сказаў ён,— стане агнём ачышчэння ад зла і нянавісці, раўнадушша і нацыянальнага бяспамяцтва!»**

**НА ЗДЫМКАХ: так сустракалі нязгасную лампаду ў Мінску.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

**[На стар. 7 консул Балгарыі ў Мінску Пётр Куцараў дзеліцца думкамі аб тым, якім павінна стаць Свята славянскага пісьменства і славянскай культуры).**

**15 мая ў Мінску адбылася Рэспубліканская канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь». Аб тым, у якім стане знаходзіцца нацыянальная мова, як ідуць працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння ў рэспубліцы, гаворыць прынятая пастанова. Раім яе ўдумліва і разважліва прачытаць, бо гэта не біюракратычны дакумент, якімі звычайна бываюць пастановы, а боль душы і глыбокая трывога за нашу мову і культуру.**

# ПАСТАНОВА

**РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «БЕЛАРУСКАЯ МОВА І НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»**

Выходзячы з асноватворнага права чалавека на дастойнае нацыянальна - культурнае жыццё, грунтуючыся на аснове тысячагадовых гістарычных традыцый народа Беларусі і ў адпаведнасці з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, Канстытуцыяй і дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь» пастанаўляе:

1. Адзначаючы, што нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі не знаходзіць па вялікаму рахунку належнай падтрымкі з боку органаў дзяржаўнай улады і кіравання, міністэрстваў і ведамстваў, кіраўніцкой прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, настойліва патрабаваць ад кіраўнікоў органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусі няўхільнага выканання законаў аб мовах, аб адукацыі і аб культуры, рэальнага забеспячэння ўмоў для стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, інфармацыі, развіцця і ўзбагачэння беларускай культуры ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусі.

2. З мэтай умацавання нацыянальна - дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусі прапанаваць грамадскім арганізацыям рэспублікі настойліва праводзіць мэтанакіраваную работу па нацыянальна-культурным адраджэнні Бацькаўшчыны з апораю ў сваёй дзейнасці на моўна-культурнае заканадаўства Рэспублікі Беларусі.

3. Прызнаць, што Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусі, у аснове якога пакладзена дастаткова абгрунтаваная і прыдатная для грамадства канцэпцыя, патрабуе пэўных удакладненняў і дапаўненняў у напрамку больш дзейснага забес-

**[Заканчэнне на 3-й стар.].**

ВАКОЛ РЭФЕРЭНДУМУ

## С. ШУШКЕВІЧ НЕ ПОЙДЗЕ З ВЯЛІКАЙ ПАЛІТЫКІ

Паколькі «лідэры апазіцыі выконваюць усе неабходныя юрыдычныя нормы, дзейнічаюць у дакладнай адпаведнасці з Законам аб рэферэндуме, а таксама сабралі неабходную колькасць подпісаў у падтрымку правядзення ўсебеларускага рэферэндуму аб даверы парламенту і ўраду рэспублікі», саветнік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Іван Сцяпура не сумняваецца ў тым, што ён адбудзецца.

Як вядома, Прэзідыум парламента, згодна з дзеючым заканадаўствам, пастанавіў вынесці пытанне аб магчымасці правядзення ўсенароднага галасавання на разгляд чарговай сесіі, дата правядзення якой пакуль што не вызначана.

У інтэрв'ю карэспандэнту «Інтэрфакса» І. Сцяпура падкрэсліў: «Калі Вярхоўны Савет не згодзіцца на правядзенне рэферэндуму, ён толькі пацвердзіць сваё нежаданне весці Беларусь па шляху радыкальных эканамічных і палітычных пераўтварэнняў, яшчэ раз прадэманструе сваё непрыманне дэмакратычных норм». Саветнік Старшыні адзначыў, што «ў выпадку, калі па выніках рэферэндуму цяперашні Вярхоўны Савет вымушаны будзе пайсці ў адстаўку, С. Шушкевіч усё роўна не пакіне вялікую палітыку». І. Сцяпура перакананы: «народ зноў запатрабуе С. Шушкевіча ў кіраўнікі дзяржавы».

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

## ХТО ЗА, ХТО СУПРАЦЬ?

Сацыялагічная служба інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН» — «Вольная думка» — правяла апытанне сярод жыхароў Мінска (апытана 500 чалавек, мужчын і жанчын у роўных адносінах).

На пытанне аб рэспубліканскім рэферэндуме 39,2 працэнта апытаных заявілі, што не прымуць у ім удзел, 17,2 працэнта пакуль не вызначыліся, 3,6 працэнта ўвогуле не ведаюць пра рэферэндум. Пойдуць на рэферэндум 40 працэнтаў з колькасці апытаных.

З іх за роспуск Вярхоўнага Савета будуць галасаваць 73 працэнты; супраць роспуску — 27 працэнтаў. З ліку апошніх 8 працэнтаў лічаць, што цяперашні склад Вярхоўнага Савета максімальна спраўляецца са сваімі абавязкамі, і 19 працэнтаў не вераць, што новы склад Вярхоўнага Савета зможа вывесці рэспубліку з крызісу.

ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ

## КАНАДА — БЕЛАРУСЬ

Канада ўстанавіла дыпламатычныя адносіны з чатырма краінамі СНД — Беларуссю, Казахстанам, Узбекістанам і Туркменістанам. Як заявіла міністр замежных спраў Канады Барбара Макдугал, адносіны фармальна ўстаноўлены шляхам абмену дыпламатычнымі нотамі ў Маскве.

«Мы вітаем гэтыя новыя дзяржавы ў суполніцтве нацый, — гаворыцца ў пісьмовай заяве міністра. — Канада гатова дапамагаць кожнай з іх у пераходзе да дэмакратыі і рыначнай эканомікі». Як адзначаецца ў заяве, гэтыя чатыры дзяржавы запэўнілі Канаду, што яны будуць выконваць існуючыя пагадненні па кантролю над узбраеннямі і раззбраенню, паважаць правы чалавека і абараняць меншасці.

Цяперашні пасол Канады ў Расіі Майкл Бел будзе таксама прадстаўляць сваю краіну ў гэтых чатырох дзяржавах.

## БЕЛАРУСЬ — ІЗРАІЛЬ

Адным з важных вынікаў візіту ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусі на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам у Ізраіль, які адбыўся на прыканцы мая, — падпісанне пагадненні аб устанаўленні дыпламатычных адносін і мемарандума аб узаемаразуменні паміж урадамі дзвюх краін.

На ўрачыстай вячэры, якую наладзіў у гонар Старшыні Савета Міністраў Беларусі В. Кебіча прэм'ер-міністр Ізраіля Іцхак Шамір, вышэйшым уладам Ізраіля быў прадстаўлены Часовы Павераны ў справах Рэспублікі Беларусь у Ізраілі Міхаіл Фарфель.

Міхаіл Абрамавіч Фарфель — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь. Яму 43 гады, па адукацыі — выкладчык геаграфіі. У Вярхоўны Савет ён выбіраўся будучы дырэктарам Чырвонаслабодскай сярэдняй школы Салігорскага раёна.

ПРЫЗНАЧЭННІ

## ПЕРШЫ Ў ШТАЦЕ

Старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч пачаў фарміраванне апарату ўзначальваемага ім жа Савета Бяспекі рэспублікі. У гэту дзяржаўную структуру па наменклатуры ўваходзяць некаторыя члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета, прэм'ер-міністр, а таксама шэраг кіраўнікоў асноўных міністэрстваў і ведамстваў Беларусі.

Першым штатным супрацоўнікам апарату Савета Бяспекі стаў 43-гадовы беларус Віктар Навельскі. Ён заняў пасаду памочніка Старшыні Савета Бяспекі. В. Навельскі — выпускнік Каспійскага ваенна-марскога вучылішча (г. Баку), 20 гадоў служыў на баявых караблях Чарнаморскага флоту. Капітан 2 рангу.

У гутарцы з карэспандэнтам «Інтэрфакса» В. Навельскі паведаміў, што па заданню Станіслава Шушкевіча цяпер ён займаецца падрыхтоўкай да першага арганізацыйнага пасяджэння Савета Бяспекі, на якім будуць вызначаны яго першарадныя задачы на бліжэйшы перыяд.

НАРКАБІЗНЕС

## ШЛЯХІ ВЯДУЦЬ ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

Усё часцей на тэрыторыі рэспублікі арыштоўваюцца асобы, якія правозяць наркатычную сыравіну.

84 кілаграмы макавай саломкі адабрана ў мінчан Б., К. і М. Затрымалі дзялкоў наркабізнесу патрульны нарад РАУС Кастрычніцкага раёна Мінска і воінскі нарад на вуліцы Бабруйскай у Мінску. У той жа дзень у поездзе № 4 «Мінск — Масква» затрыманы брат К. — Х. і жыхар Каўнаса, у якіх канфіскаваны 81 кілаграм той жа сыравіны. Пачата расследаванне па выяўленню ўсёй сеткі збыту наркотыкаў.

ПА-ХРЫСЦІЯНСКУ

## ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ МАКСІМУ!

Упершыню па-хрысціянску адзначыла Беларусь дзень памяці свайго вялікага паэта і грамадзяніна Максіма Багдановіча.

Апоўдні 25 мая ў Петрапаўлаўскай царкве сталіцы была адслужана на роднай мове беларускаў паніхіда. Настаяцель храма айцец Георгій паведаміў прысутным, што цяпер у гэты дзень вернутая вернікам царква заўсёды будзе ўспамінаць імя Максіма, пець яму вечную памяць.

Да помніка Багдановічу прынеслі кветкі школьнікі і паэты, хавальнікі яго музея і члены праваслаўнага брацтва «Трох віленскіх пакутнікаў», проста грамадзяне, якія любяць свой народ, родную мову і вераць у будучыню свабоднай Беларусі. І зноў гучалі Максімавы радкі: «Беларусь мая! Краіна-бranачка! Устань, свабодны шлях сабе шукай». А ля «Беларускай хаткі» — дома на Рабкораўскім завулку ў Мінску, дзе з кастрычніка 1916-га па люты 1917-га жыў Максім і дзе цяпер размясціўся філіял музея паэта, — усталёўваецца помнік работы скульптара Уладзіміра Слабодчыкава.

ГРЫБЫ КРУГЛЫ ГОД



Круглы год здымаюць ураджай шампіньёнаў у саўгасе «Чырвоны сцяг» Баранавіцкага раёна. Далікатэсную прадукцыю адпраўляюць у Мінск, Брэст, Баранавічы. Штомесяц 15 тон грыбоў паступае з гаспадаркі ў гандлёвую сетку і камбінаты грамадскага харчавання.

НА ЗДЫМКУ: аналіз чарговай партыі грыбоў праводзяць лабарант Ядвіга КАЗМЕРЧЫК і загадчыца лабараторыі Ганна ДАЛМАТАВА.

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## РАБУЮЦЬ СЕМ'ЯМІ

У Жодзіне была затрымана група з 10 чалавек, якія спрабавалі вынесці са склада, дзе захоўвалася гуманітарная дапамога, дастаўленая з Германіі, каштоўнасцяў на многія дзесяткі тысяч рублёў. Прывабілі злодзеяў футравыя і скураныя вырабы, спартыўны абутак і адзенне, тавары для дзяцей. Пры затрыманні міліцыя вымушана была прымяніць зброю. Імёны злачынцаў устаноўлены. Дзіўна, што сярод іх ёсць цэлыя сем'і.

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВАЛЮТА

## РУБЕЛЬ ДА РУБЛЯ

З 25 мая ў рэспубліцы выпушчаны ў абарачэнне так званы «беларускі рубель». Яго з'яўленне дачасна — Нацыянальны банк Беларусі меў намер увесці свае разліковыя знакі на пачатку чэрвеня — выклікана крызісам наяўнай масы грошай. Таму прызначэнне «беларускага рубля» — дапоўніць рубель СНД-аўскі, а працей — стары савецкі. Іх суадносіны 1:10, гэта значыць, што наша «валюта» ў дзесяць разоў даражэйшая за стары рубель.

Некаторыя краіны СНД і ўспрынялі «беларускі рубель» як нацыянальную валюту і ўстрывожыліся, што Беларусь нібы мае намер выйсці з рублёвай зоны. У сувязі з гэтым старшыня Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Станіслаў Багданкевіч даў афіцыйнае тлумачэнне карэспандэнту БЕЛТА:

— Разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі ні ў якім разе нельга разглядаць як беларускую нацыянальную валюту. Рэспубліка падпісала з Расіяй — яе урадам і Цэнтральным банкам — пагадненне аб выпуску «рублёў» з-за катастрафічнага недахопу рублёў. Гэтым мы спрабуем выйсці з дэфіцыту наяўнасці. На сённяшні дзень сума нявыплат зарплат, пенсій, кампенсацый у рэспубліцы дасягнула чатырох мільярдаў рублёў.

Пакуль мы бачым больш аргументаў на карысць таго, каб заставацца ў рублёвай зоне. Бо палавіна нашых прадпрыемстваў напрамую завязана на расійскім манапалізме прадпрыемстваў. Відавочна, што перш чым гаварыць аб уласнай нацыянальнай валюце, варта перабудаваць нашу эканоміку. Але гэта працэс працяглы.

Таму Нацыянальны банк Беларусі падтрымлівае імкненне Расіі ўмацаваць рубель і зрабіць яго канверсуемым. Калі Расія згадзіцца з прапановай краін Садружнасці выпускаць агульную валюту, то ў будучыні мы можам адмовіцца ад разліковых білетаў Нацыянальнага банка. Калі ж федэрацыя аддасць перавагу свайму нацыянальнаму рублю, то згодна з заключаным з Цэнтральным банкам Расіі пагадненнем мы будзем выкарыстоўваць нашу валюту 1:1. У такім выпадку Беларусь будзе мець на рублёвых банкнотах сваю нацыянальную сімволіку.

ГОМЕЛЬСКІЯ БУНТЫ

**Адсутнасць у продажы цукру выклікала ў Гомелі так званыя «цукровыя» бунты. Разгневаныя пакупнікі, якія страцілі надзею атаварыць талоны, двойчы перапынялі аўтобусны і тралейбусны рух. Новую хвалю незадаволенасці выклікала чарговае павышэнне цэн. Сітуацыя ўскладнілася тым, што работнікі многіх прадпрыемстваў горада ўжо па 2—2,5 месяца не могуць атрымаць зарплату: няма наяўных грошай у ашчадных банках. І вось трыкатажнікі фабрыкі «8-е Сакавіка» і работнікі будаўнічага трэста № 14 блакіравалі рух гарадскога аўтатранспарту на Рагачоўскім кальцы непадалёку ад універмага «Гомель», у выніку чаго Савецкі і Чыгуначны раёны горада паўдня былі без транспартных зносін. Перагаварыць з удзельнікамі хваляванняў прыбылі мэр горада Святлана Гальдадэ і начальнік планава - эканамічнага ўпраўлення аблвыканкома Станіслаў Пракапенка. Гэтыя бунты праз колькі дзён змяніліся выступленнямі пенсіянераў, якія праклінаді тых, хто «выдумаў гэты рынак». Неаднаразова былі перакрыты вуліцы Савецкая, Рагачоўская, Кірава. Людзі садзіліся і лажыліся на асфальт.**



**НА ЗДЫМКУ: блакіравана вуліца Палеская.**



**Перамены ў грамадскім жыцці Рэспублікі Беларусь прыйшлі і на пагранзаставы, размешчаныя на яе тэрыторыі. Цяпер яны не з'яўляюцца больш састаўной часткай Заходняй пагранічнай акругі. У Мінску створана свая структура па кіраўніцтву ахоўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.**

**Гэты здымак зроблены на заставе імя А. Кіжаватава. Апошнім часам значна змяніўся яе асабовы састаў. Калі раней на заставе былі людзі розных нацыянальнасцей, то вось ужо другі прызыў сюды прыходзяць служыць толькі беларускія хлопцы ды землякі героя з Пензенскай вобласці. Праўда, даслужваюць свой тэрмін і тыя, хто пажадаў застацца на заставе да дэмабілізацыі, а не паехаў у свае краіны.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

# ПАСТАНОВА

## РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «БЕЛАРУСКАЯ МОВА І НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНЫ СУВЕРЭНІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

пячэння патрэб нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі.

4. Прасіць Савет Міністраў рэспублікі:

а) стварыць **Інспекцыю па нагляду за выкарыстаннем дзяржаўнай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь,** якая павінна мець падпарадкаваныя ёй структуры ў адміністрацыйных цэнтрах **у межах існуючых штатных адзінак;**

б) стварыць міжведамасныя камісіі з прадстаўніцтвам нацыянальна - патрыятычных грамадскіх арганізацый па правядзенні атэстацыі кіруючых кадраў у галіне адукацыі, інфармацыі і іншых сферах сацыяльна-культурнага комплексу з мэтай забеспячэння патрабаванняў Закона аб мовах аб пераводзе справаводства на дзяржаўную мову.

5. Звярнуцца ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі з прапановай унесці змены ў заканадаўства аб падатках, пашырыўшы льготы тым вытворча-прадпрымальніцкім структурам, якія сваёй дзейнасцю ўносяць рэальны ўклад у нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі і пашырэнне беларускай мовы пры адначасовым абкладанні спецыяльным падаткам выпуску перыёдыкі і літаратуры на рускай мове (акрамя падручнікаў для школ і ВНУ) і заходнееўрапейскіх мовах.

6. Звярнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі на недапушчальнасць любых формаў знявагі дзяржаўнай беларускай мовы; у выпадку парушэння дадзенага патрабавання прыцягваць віноўных да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.

7. Прасіць рэспубліканскія газеты выдзяляць адзін раз у месяц старонку для выступленняў па праблеме нацыянальна-культурнага адраджэння, асвятлення вопыту работы ТБМ імя Ф. Скарыны і іншых нацыянальна-патрыятычных аб'яднанняў.

8. Прасіць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусі арганізаваць сістэматычныя выступленні па радыё і тэлебачанні па праблемах нацыянальна-культурнага адраджэння, гісторыі Беларусі, сучаснага стану беларускай культуры і мовы.

9. У навучальным 1992/93 годзе істотна пашырыць выкладанне ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на падрыхтоўчых аддзяленнях на дзяржаўнай мове.

10. Правесці ў лістападзе 1992 года сумесна з кіруючымі работнікамі абласных і раённых (гарадскіх) выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў нараду па праблемах вяртання беларускай мовы ў сферы дзяржаўнага, грамадска-палітычнага і духоўнага жыцця.

11. Абмеркаваць у канцы жніўня 1992 года з кіраўнікамі і прафесарска - выкладчыцкім складам ВНУ і тэхнікумаў стан беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу.

12. Патрабаваць ад Вярхоўнага Савета Беларусі, органаў дзяржаўнага кіравання і праваахоўных органаў рэспублікі прыняць канкрэтныя захады ў дачыненні да тых святароў праваслаўнай і каталіцкай канфесій, чыя дзейнасць скіравана на русіфікацыю і паланізацыю беларускага насельніцтва і якая па сутнасці з'яўляецца антыдзяржаўнай.

## ПРА СТАН БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

# ПАДАЙЦЕ НА БЕДНАСЦЬ

Да маёй сяброўкі прыехала сваячка з-за мяжы. Сяброўка імкнулася паказаць госці як мага больш. Павяла яе на праспект Скарыны і вырашыла ва ўсёй прыгажосці прадставіць ёй беларускія выданні. А паказ павінен быў адбыцца ў кіёску «Наша слова». І адбыўся. Дзяўчына, якая не была на Беларусі даволі доўга, паглядзела на сціплае збудаванне з разбітым шклом і спытала: «Ну, дык ты павядзеш мяне ў той магазін, дзе гандлююць беларускімі выданнямі?»

— Магазіна такога я не ведаю. А кіёск вось — выбірай, што хочаш, — прагучаў адказ.

У той момант і ў мяне, і ў сяброўкі было такое адчуванне, што дзяўчына проста не разумее нас. Нарэшце яна пераканалася, што гэты кіёсачак, адзіны на ўсю сталіцу, і ёсць тое самае месца, дзе гандлююць беларускімі выданнямі. Можна было б усцешыць госцю ды і сябе тым, што, нягледзячы ні на што, кіёск працуе і прадае цікавыя кніжкі. Гэта ў асноўным брашуры, якія былі выдадзены на Беларусі даўно, але невядомыя сённяшняму чытачу. Ёсць тут праца Станкевіча «Зьмена граматыкі беларускага языка ў БССР», папулярная кніга Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі». Тут можна таксама набыць вырабы народных майстроў, значкі, эмблемы на беларускую тэматыку.

Здзіўленне знаёмай прымусіла мяне задумацца і трошкі паназіраць. Заўважыла, што пакупнікі тут — інтэлігенцыя, студэнты (пазнавала многіх). Гэтыя людзі цікавяцца гісторыяй, мовай, культурнай спадчынай свайго краю. Тут часцей, чым дзе на вуліцах, чуецца беларуская мова.

— Ёсць у вас «Наша ніва»?

— Ёсць, — адказвае кіяскёр, — за мінулы год.

— Дзякуй, мне б за гэты.

Малады чалавек цікавіцца расійска-беларускім слоўнікам В. Ластоўскага.

— Будзе машына ў Таварыства беларускай мовы, каб перавезці, — будзе слоўнік у продажы.

Я разумею, што машына ў нас пакуль не сродак руху, а раскоша. Але, каб гэта правіла распаўсюджвалася і на Таварыства беларускай мовы — усё ж такі занадта.

Аднак па праспекту Скарыны крочаць не толькі грамадзяне, якіх цікавіць беларуская культура. Ідзе, напрыклад, інтэлігентнага выгляду жанчына, падыходзіць да кіёска і доўга распытвае, чаму няма «Вечернего Минска».

— Разумееце, мне трэба праграма тэлебачання. А тут у вас што? Нейкія «Наша слова», «Ніва»...

Кіяскёр спакойна тлумачыць ёй, куды яна трапіла. Тая слухае, потым нават гаворыць нешта па-беларуску і купляе газету. А прадавец да ўсяго гэтага звыклая.

— Ведаеце, — гаворыць яна,—сярод пакупнікоў людзі розныя. Хто не ведае, што за кіёск, здзіўляецца. Хай здзіўляецца. Можа пасля здзіўлення прыйдзе зацікаўленне.

— Ці шмат ахвотнікаў на вашы выданні? — пытаю.

— Газеты і брашуры, што прапануе Таварыства беларускай мовы і наш кіёск, маюць свайго пастаяннага чытача. Вы ж бачыце, колькі людзей са мной вітаецца. І іх было б болей, калі б мы мелі, чым гандляваць.

Кіёск, канешне, не пусты. Але пры мне людзі скардзіліся, што там ляжаць амаль усе газеты за мінулы год. Сапраўды, газета «Наша ніва», напрыклад, сёлета не выходзіла. Хаця два нумары як быццам падрыхтаваны. Але ўжо летась «Наша ніва» не мела сродкаў і збірала ахвяраванні на сваё выданне. Беластоцкая «Ніва» не прыходзіла сёлета таксама.

...Я глядзела на кіёск, назірала за людзьмі, што падыходзілі да яго, і мне рабілася сумна. Яны ж цікавяцца ўсім беларускім, калі пытаюцца і купляюць. Такое зацікаўленне варта было б падтрымаць усімі сіламі. Ды няма каму. А дакладней — няма як. Бо ўсё ж такі газеты ёсць. Хай сабе частка іх і выдаецца за мяжой — «Ніва» у Беластоку, «Наша ніва» ў Вільні, але ж ёсць свае. Калі звярнуцца да лічбаў, то Беларускі Дом друку выпускае 62 газеты і 41 часопіс. Ды з беларускамоўнай прэсай адбываецца штосьці незразумелае. Кошт газетнай паперы за тону павялічаны больш чым у 10 разоў. Падаражалі паслугі Саюздруку і пошты. Рынак, якога яшчэ і блізка няма ў нармальным выглядзе, душыць сваім цяжкім прэсам журналіста як асобу. Калі так падымаюцца цэны, ён павінен знайсці месца, дзе зможа выжыць. Ён зробіцца звычайным таварам. Яго будуць купляць і прадаваць. Калі раней над прэсай быў занесены ідэалагічны меч, то зараз я бачу меч эканамічны. Ужо шмат газет адчуваюць на сабе «новыя часы». Напрыклад, «Наша доля»— газета Беларускага таварыства інвалідаў павінілася перад сваім чытачом і вырашыла «па прычыне невыдзялення паперы выходзіць раз у месяц». Пра якую аператыўнасць інфармацыі і наогул газету можа ісці размова, калі яна будзе выходзіць раз у месяц. І ў той жа час інвалідам патрэбна сваё выданне. Дарэчы, гэтая ж газета звяртаецца да чытачоў з просьбай дапамагчы грашыма. Але ж адкуль тыя грошы ў інвалідаў?

У сваёй бядзе «Наша доля» не адзінокая. Сёлета некалькі разоў не выходзіла газета «Знамя юности», дзіцячы часопіс «Вясёлка» трапіў да сваіх падпісчыкаў у мінулым годзе 7 разоў замест 12 і ў гэтым толькі раз. Выданні стаяць перад выбарам —зачыняцца або павышаць цэны? «Звязда» ўжо падняла. Падпіска на год будзе каштаваць 124 рублі 80 капеек.

Ад усяго гэтага робіцца жудасна, таму што нагадваем мы герояў п'есы М. Метэрлінка «Сляпыя». Падобна ім, мы не бачым нічога і брыдзём да сваёй пагібелі. Тыя ішлі да акіяна, мы ідзём да духоўнага прадоння.

Размаўляючы са сваёй новай знаёмай, пра якую я гаварыла вышэй, я зноў-такі бачыла, што яна мяне не разумее. Я скардзілася на дэфіцыт паперы, гаварыла, што ёсць цяжкасці з выплатай ганарараў, зарплаты супрацоўнікам рэдакцый і аўтарам. Яна ж пярэчыла: «У вас лясы навокал, які ж тут дэфіцыт паперы? І што значыць —няма грошай, каб заплаціць за працу?»

Яна доўга не верыла, што ў некаторых рэдакцыях нават не бачылі камп'ютэраў. Не верыла, што для большасці журналістаў дыктафон—мара.

Яна не верыла, калі я называла ёй лічбу зарплаты журналіста і цэны ў магазінах. У рэшце рэшт ад нашай размовы ёй зрабілася проста балюча.

Мне, як нармальнаму чалавеку і будучаму журналісту, горка бачыць, што наша інтэлігенцыя і журналісты, у прыватнасці, знаходзіцца ў прыніжаным становішчы. У адной з газет прыводзілася фраза Ніла Гілевіча аб тым, што ў нас «дзеячы культуры ператвараюцца ў жабракоў, а невукі становяцца мільянерамі». У мінулым месяцы мінчане былі сведкамі мітынгаў дзеячаў культуры і работнікаў асветы. Яны патрабавалі павышэння зарплаты, паляпшэння ўмоў працы.

Цяжка бачыць культуру такой бяспраўнай. Тым больш, калі ўрад абвясціў пра беларусізацыю. Праўда, ён жа абвясціў і пра пераход да рыначнай эканомікі. Я не ведаю, ці здолеем мы сумясціць уладу грошай і справу адраджэння, якая не прыносіць ніякага матэрыяльнага прыбытку.

10 лютага выйшла Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Яна датычыцца беларускамоўных выданняў.

З пастановы:

— прыняць меры па забеспячэнню выдання і распаўсюджання часопісаў і газет на беларускай мове;

— забяспечыць прыярытэтныя ўмовы для гандлю і рэкламы беларускіх выданняў. Тут жа гарантуецца пакрыццё некаторых страт газет і часопісаў.

Суцяшальная навіна, але пакуль праблем, што паўстаюць перад нацыянальнай прэсай, не памяншаецца.

Падзялілася сваімі назіраннямі з Алесем Багдановічам, супрацоўнікам Таварыства беларускай мовы. І вось што пачула ў адказ:

— Адраджэнне нацыі — справа вельмі далікатная. Яна патрабуе сур'ёзнага падыходу і сапраўды вялікіх грошай. Таварыства беларускай мовы — грамадска-асветніцкая арганізацыя — жыве на свае сродкі. Але наша справа не толькі праіснаваць, але ж і данесці як мага больш усяго беларускага да нашых людзей. А на такой справе не зробіш вялікія грошы. Цэны ў нашым кіёску некамерцыйныя, прыбытак суадносна таксама. Мы не гонімся за вялікім капіталам, галоўнае — каб кожны чалавек мог набыць нашу прадукцыю.

Пакуль кіёск сапраўды адзіны ў горадзе. Быў другі, але ў няўдалым месцы, зараз ён не працуе. Плануецца адчыніць кіёск у Шабанах, дальнім раёне Мінска.

Не так даўно створаная асацыяцыя беларускамоўных выданняў марыць пра цэлы шэраг кіёскаў. Там павінны прадавацца ўсе беларускія газеты і часопісы. Але ж калі гэта будзе... У асацыяцыі няма сродкаў, каб купіць нават 1 кіёск (калі ён знаходзіцца ў цэнтры горада, яго кошт недзе каля 50 тысяч рублёў). Яго можа купіць бізнесмен, бо набытак яму хутка акупіцца: ён там будзе гандляваць розным таварам, толькі не беларускімі выданнямі.

Такія сумныя справы. Слухаеш і думаеш, які лёс чакае мяне і будучых выпускнікоў факультэта журналістыкі? Хто з іх захоча пайсці ў жабрацкія выданні? Можа, і яны кінуцца ў камерцыю?

**Алена СПАСЮК,**
**студэнтка Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

*СТАРОНКІ БАГАТАЙ І НЕЗНАЁМАЙ ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# У ПОЛАЦКАЙ НАСТАЎНІЦКАЙ СЕМІНАРЫІ

## *УСПАМІНЫ*

### РАДАЎНІЦА

Восенню 1887 года ў нашай семінарыі распаўсюдзіўся брушны тыф, захварэлі многія выхаванцы. Двое з іх нават памерлі. Папраўляючыся, яны не вытрымалі дыэты, невядома як дабраліся да грубой ежы, захварэлі зноў і цяпер ужо не падняліся. Пахавалі іх на гарадскіх могілках, за Палатой. На пахаванні іх я не быў, бо хварэў сам. У нашым інтэрнаце быў пакой — «бальніца», куды і клалі хворых на тыф. Для нагляду за імі была запрошана манашка з Ефрасіннеўскага манастыра.



У праваслаўнай царкве яшчэ з даўніх часоў захавалася традыцыя: у першы аўторак пасля велікоднага тыдня, на так званым Фаміным тыдні, адпраўляюць на могілках службы па памершых. Некаторыя з родных робяць паніхіды і асобна — на магілах сваіх блізкіх. Гэты дзень называюць па-рознаму: раданіца, радуніца, радаўніца. У праваслаўных латышоў такой традыцыі няма.

Упершыню бачыў я тут радаўніцу ўвесну 1890 года. Тады свяшчэннік нашай царквы адправіў паніхіды на могілках памершых у мінулую восень двух выхаванцаў семінарыі. На могілкі пайшлі многія семінарысты і некаторыя настаўнікі. Прыехалі і родныя памершых: аднаго — бацька, другога — брат. У той дзень на могілках было многа народу, што сабраўся каля магіл сваіх родных. Тут я ўбачыў і нязвычнае для нас, латышоў: пасля адпраўлення паніхіды, каля многіх магіл сядзелі людзі і пілі прынесеную з сабой гарэлку, закусваючы яйкамі і булкамі. Пазней я чуў, што яйкі і булкі на гэты дзень некаторыя зберагаюць ад Вялікадня.

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 20—22.

### ЮБІЛЕЙ ДАЛУЧЭННЯ УНІЯТАЎ

Вясной 1889 года ў Полацку святкавалі 50-гадовы юбілей далучэння уніятаў. Акт аб далучэнні быў падпісаны 12 лютага 1839 года ў полацкім Сафійскім кафедральным саборы. Тут жа, у Полацку, у тыя часы была рэзідэнцыя епархіяльнага епіскапа. На святкаванне з'ехаліся некалькі епіскапаў і многа гасцей з іншых месцаў.

Юбілейнае набажэнства наладзілі ў тым жа гістарычным Сафійскім кафедральным саборы. Нейкі час гэты сабор быў закрыты, і звычайныя святочныя і нядзельныя богаслужэнні ў ім больш не адбываліся. Толькі ў маі месяцы кожны год яго адчынялі, і тады тут кожную раніцу адпраўляліся акафісты. Таксама ў маі кожны вечар адбываліся адмысловыя «маёвыя» набажэнствы і ў каталіцкім касцёле. Мусіць, як супрацьдзеянне каталіцкаму духавенству полацкія праваслаўныя свяшчэннікі і пачалі свае майскія акафісты ў Сафійскім кафедральным саборы: у дзень юбілею і напярэдадні яго на набажэнствах спявалі аб'яднаныя хоры— настаўніцкай семінарыі і духоўнага вучылішча. Удзельнічаў і дзяк гарадской Мікалаеўскай царквы — Ноўскі; ён славіўся вельмі нізкім голасам. Як грымеў ягоны бас, асабліва калі ён пачынаў вячэрню воклічам: «Восстаните! Владыко, благослави!» Як гэта захапляла нашых семінарскіх басоў! На юбілейнае ўсяночнае набажэнства людзі ўжо загадзя збіраліся каля Сафійскага сабора, групкамі хадзілі па плошчы. Тут жа пахаджваў і дырэктар нашай семінарыі Смірноў з нейкім высокім стройным панам з жоўтымі вусамі, у круглым цыліндры. Мае таварышы сказалі, што гэта А. Сапуноў, настаўнік Віцебскай губернскай гімназіі і гісторык Віцебскай губерні— зборнік даследаванняў яго пад назвай «Витебская старина» я ўжо бачыў.

### ДАРЭМНАЕ ЧАКАННЕ

Восенню 1888 года ў Полацк прыйшлі весткі, што цар Аляксандр III, вяртаючыся з Крыма ў Пецярбург, паедзе Дынабургска-Віцебскай чыгункай і наведае Полацк, дзе агледзіць кадэцкі корпус, настаўніцкую семінарыю і іншыя школы. Для Полацка гэта была б надзвычайная падзея... І вось пачалася падрыхтоўка да прыёму высокіх гасцей. Наша семінарыя збіралася вітаць цара спевамі: развучвалі аж пяць гімнаў. Я спяваў ужо басам-барытонам — і некалькі куплетаў аднаго з гімнаў мне трэба было спяваць сола. Калі наблізіўся прызначаны дзень, меркавалі, што наш хор спеўся добра. Тыя, хто чуў нас, былі задаволены. Асабліва — дырэктар Смірноў, які, калі слухаў нашы спевы, кожны раз быў моцна ўзрушаны і не мог устрымацца, каб не ўскрыкнуць: «Ах, как хорошо!»

Апоўдні 17-га кастрычніка семінарысты і настаўнікі былі сабраны ў актавай зале. Чакалі. Надышоў нарэшце прызначаны час... Аб гасцях — ні слыху, ні дыху. Чакалі яшчэ гадзіну, дзве... Толькі позна ўвечары дырэктар паведаміў, што цягнік, якім ехаў цар з сям'ёй, па дарозе сышоў з рэек. Падрабязных звестак усё яшчэ не было, але нам паведамілі, што раней намечанай дарогай цар не паедзе і ў Полацку не будзе.

Начальства нашай семінарыі спадзявалася ў гэты дзень выпучыцца, атрымаць царскую падзяку і, можа быць, нешта іншае, больш адчувальнае. Але гэтыя надзеі развеяліся.

### КАНЦЭРТЫ Д. АГРЭНЕВА-СЛАВЯНСКАГА

Калі я вучыўся яшчэ ў першым класе семінарыі, увосень 1887 года, у Полацку даў два канцэрты шырока вядомы ў тыя часы спявак Д. Агрэнеў-Славянскі са сваім хорам, падобнага якому ў Расіі тады не было. Нам, семінарыстам, не дазвалялася паказвацца ні на якіх вечарах. Да гэтага яшчэ трэба дадаць, што мы, сыны незаможных сялян не мелі за што купіць уваходны білет. Але гэтым разам дырэктар семінарыі зрабіў выключэнне: на першы канцэрт Славянскага адпусціў групу навучэнцаў. Найперш — спевакоў семінарскага хору, якім пазней, працуючы настаўнікамі, самім давядзецца арганізоўваць хоры і кіраваць імі. Мусіць, з гэтае прычыны дырэктар і зрабіў уступку.

Канцэрт адбыўся ў зале кадэцкага корпуса. Зала была біткам набіта, бо для Полацка гэта была нечуваная падзея. Для мяне, беднага вясковага хлопца, гэта быў першы выпадак, каб пачуць такі хор і пабачыць такіх слухачоў і ў такой колькасці — сабралася, мусіць, уся полацкая інтэлігенцыя.

Як сам Славянскі, так і ўсе яго харысты былі апрануты ў старадаўняе баярскае адзенне. Ужо адно гэта зрабіла не толькі на мяне, але і на ўсіх слухачоў вялікае і глыбокае ўражанне.

У Славянскага быў прыемны тэнар. Пераважную частку праграмы выконваў ён сам, а хор толькі падпяваў. Пасля кожнай песні доўга не змаўкалі воплескі слухачоў. Але тое, што дзеялася пасля беларускай песні «Ці не дудка мая», у якой Славянскі імітаваў прыёмы спявання і галасы беларускіх сялян, асабліва ў канцы песні,— нельга апісаць. Палачане, прысутныя ў зале, родам беларусы, даўно ведалі гэтую песню, чулі яе ў выкананні простых сялян. Слухачы ўскочылі з месцаў, каб лепш бачыць; у глыбіні залы, дзе былі і мы, семінарысты, многія залезлі на крэслы. Мой сусед семінарыст Шульга, ускочыўшы на крэсла, біў у далоні і на ўвесь голас крычаў: «Біс!», твар ільсніўся, вочы блішчэлі. Голас нашага актывіста Сакалоўскага перакрыў амаль усіх. Але не было часу аглядацца навокал. Вочы ўсіх скіроўваліся на сцэну, на спевакоў.

...Пазней, пасля смерці заснавальніка хору Дзмітрыя Агрэнева (Славянскі — яго псеўданім), месца бацькі заняла дачка Маргарыта Агрэнева. У 1912 годзе ў Себежы я меў магчымасць праслухаць хор-капэлу пад яе кіраўніцтвам. Праграма захавалася амаль тая ж. Спявала М. Агрэнева сола, а харысты толькі падпявалі ёй.

### ФАТАГРАФАВАННЕ Ў СЕМІНАРЫІ

У 1889 годзе ў Полацк прыехалі французскія фатографы, якія рабілі здымкі для «сусветнага» альбома. Тут, у нашым горадзе, яны мелі намер сфатаграфаваць усе ўстановы, у тым ліку і нашу семінарыю. У прызначаны дзень на двары інтэрната ўсё было падрыхтавана для фатаграфавання. Наперадзе селі ў крэслы настаўнікі, за імі сталі семінарысты — на зямлі, на лаўках, на сталах. Фатограф гаварыў па-руску, хоць і з вялікім акцэнтам. Зрабіў ён два здымкі: на адным сфатаграфаваў нас у шапках, на другім — без шапак. Гэта было наша першае фатаграфаванне — яно моцна ўзварушыла наша ціхае адасобленае жыццё. Ды і для ўсяго горада такое фатаграфаванне было вялікай падзеяй.

Пазней нам паказалі тыя фотакарткі, але я адразу не мог знайсці і пазнаць сябе: там, дзе павінен быў стаяць я — збоку на стале — стаяў нейкі чужы, незнаёмы мне хлопец! Мы, семінарысты, зразумела, не маглі набыць сабе гэтыя фатаграфіі. Некаторыя семінарысты бачылі таксама здымкі Ефрасіннеўскага манастыра, кадэцкага корпуса, каманды пажарнікаў і інш.



Ці быў гэты альбом выдадзены (а калі быў, дык калі і дзе), нам засталося невядома. Як невядома таксама, дзе знаходзіцца мая першая фатаграфія.

**Юрыс КРЭЙЦ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Юрыс КРЭЙЦ; Юрыс КРЭЙЦ (другі злева ў верхнім радзе) сярод выпускнікоў Полацкай семінарыі 1897 года.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Сёння мы заканчваем друкаваць нататкі Юрыса Крэйца «У Полацкай настаўніцкай семінарыі» ў перакладзе Пятра Масальскага.**

**У наступным нумары мы прапануем чытачам пасляслоўе да ўспамінаў Юрыса Крэйца, напісанае перакладчыкам нататак.**

*ЗНАЙСЦІ АДЗІН АДНАГО*

# ТРЭБА ЖЫЦЬ, КАХАЦЬ І СЯБРАВАЦЬ

Дзень добры, паважаная рэдакцыя!

Маё прозвішча і імя Чыкуноў Віктар. Я некалькі год запар выпісваю «Голас Радзімы», але ніколі вам не пісаў. Вось вырашыў даслаць вам свой ліст. Некалі, мабыць больш года назад, да вас звяртаўся адзін чытач, на жаль, я не памятаю яго прозвішча. Гэты чытач звяртаўся да вас з нагоды таго, каб адкрыць у «Голасе Радзімы» невялічкі куток сяброў па перапісцы і людзей, якія хочуць пасябраваць, знайсці адзін аднаго праз вашу газету. Гэта вельмі слушная прапанова, але яна не знайшла ў рэдакцыі прыхільнікаў, і больш пра яе адкрыццё не пісалася.

Я вам пішу з нагоды знайсці сяброў за межамі Бацькаўшчыны, але не ведаю, як гэта зрабіць, і вырашыў вам даслаць свой ліст. А назва рубрыкі магла б быць рознай: «На сяброўскай хвалі», «Сябры па перапісцы», «Куток сябра» альбо неяк інакш. Не ў назве справа, а ў сутнасці, каб людзі з Беларусі і з іншых краін мелі магчымасць сябраваць.

Я жадаў бы завязаць сяброўскія адносіны з беларусамі, і не толькі з беларусамі, з людзьмі розных краін, розных нацый і розных веравызнанняў, хто разумее беларускую мову альбо рускую і хто жадаў бы мець сябра ў Рэспубліцы Беларусь.

Некалькі радкоў пра сябе.

Мне 31 год, жыву я ў Гомелі, працую на заводзе. Мне вельмі падабаюцца песні Данчыка Андрусышына, яго адносіны да Беларусі, як ён пранёс родную мову праз сваё жыццё ў Амерыцы. На жаль, у Беларусі мала хто карыстаецца роднай мовай. Я таксама не надта добра размаўляю на беларускай мове, бо вакол нас рускамоўнае асяроддзе. Я жадаў бы знайсці сяброў за межамі нашай рэспублікі, хто не згубіў роднай мовы, жадаў бы сябраваць, весці перапіску, размаўляць на розныя тэмы. Хвалююць пытанні экалогіі на Беларусі, знішчэнне роднай мовы. Шмат чаго хвалюе, палітычнае становішча нашай Бацькаўшчыны, процістаянне розных груповак, партый і гэтак далей.

Але жыццё ёсць жыццё, трэба жыць, кахаць, слухаць музыку, добрыя вершы і сябраваць. І калі ў рэдакцыі ёсць намер адкрыць такую рубрыку для прамых сяброўскіх адносін — чытач з чытачом, то вельмі буду вам удзячны за тое, што вы надрукуеце мой адрас альбо некалькі радкоў з майго ліста.

**АД РЭДАКЦЫІ. У нас даўно быў намер адкрыць такую рубрыку, што мы і зрабілі два гады назад. На жаль, актыўнай падтрымкі чытачоў яна («Прапаную пісаць мне на адрас») не атрымала. Ліст В. Чыкунова дае нам магчымасць паўтарыць задуму. Чакаем водгукаў.**

## НЕДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ГУТАРКА З ДЫПЛАМАТАМ

# ЦІ ЎВАСКРЭСНЕ НАРОД?

**У 1990 годзе цэнтрам Свята славянскага пісьменства і славянскай культуры быў горад Мінск. З гэтай нагоды ў «Голасе Радзімы» з артыкулам «Ідзі, народзе ўваскрэслы!» выступаў консул Генеральнага консульства Рэспублікі Балгарыі ў Мінску Пётр Куцараў, у якім ён расказваў пра стваральнікаў славянскай азбукі братоў Кірылу і Мяфодзія і пра старадаўнія сувязі паміж балгарскім і беларускім народамі. З задавальненнем адзначаў ён, што ўпершыню прагучаў на беларускай мове гімн Кірылы і Мяфодзія «Ідзі, народзе ўваскрэслы, да светлай прышласці ідзі...» і выказваў спадзяванне, што гімн гэты стане адзнакай свята і будзе гучаць штогод 24 мая ў школах і універсітэтах, а дзіцячыя рукі будуць упрыгожваць кветкамі партрэты святых роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія.**

**Сёлета напярэдадні Свята славянскага пісьменства і славянскай культуры карэспандэнт «Голасу Радзімы» сустрэлася з Пятром КУЦАРАВЫМ і папрасіла адказаць на некалькі пытанняў.**

*— Ці спраўдзіліся вашы спадзяванні? Ці набыло гэта свята на Беларусі сваю адметнасць?*

— Сёлета было прынята рашэнне прынесці агонь ад Труны Гасподняй з Іерусаліма ў трэцюю сталіцу свету. Памятаеце? Першай сталіцай быў Рым, другой—Канстанцінопаль, трэцяй — Масква, а чацвёртай сталіцы не бываць. Свяшчэнны агонь пабывае ў Мінску, адбудзецца хрэсны ход, вялікае набажэнства ў кафедральным саборы. Але дзе ж тут свята, і перш за ўсё свята пісьменства?

*— Я памятаю, што ў Балгарыі дзень 24 мая адзначаецца як асветніцкае свята. На дэманстрацыях многа моладзі з кніжкамі, кветкамі, выступаюць пісьменнікі...*

— Сапраўды, гэта свята вучняў, студэнтаў, выкладчыкаў, дзеячаў культуры. Нават у старажытных сцэнапісах засведчана: «Прославляем вас, святые равноапостольные Кирилл и Мефодий, все славянские страны, просветившие и ко Христу приведшие». Спачатку было слова, нават у Бібліі так сказана. Кірыла і Мяфодзій стварылі азбуку, пераклалі Біблію, навучылі нас чытаць і пісаць, і, дзякуючы пісьменству, славяне не згубіліся ў IX стагоддзі, захаваліся як нацыі, і з таго часу актуальная ідэя яднання славян. Сёння ўсё менш і менш акцэнтуецца роля Кірылы і Мяфодзія як асветнікаў.

*— Мне здаецца, што нязгасную лампаду таксама трэба разумець не ў літаральным сэнсе.*

— Менавіта. Веды перадаюцца з пакалення ў пакаленне як нязгасная лампада. І я думаю, што варта асаблівую ўвагу звярнуць на ролю і месца Беларусі ў захаванні пісьменства. Хацелася мне вызначыць таксама месца Кірылы і Мяфодзія ў жыцці беларускага народа. Гэтымі пытаннямі я займаўся два гады ў вольны ад асноўнай работы час, знаёміўся з першакрыніцамі ў архівах, з прэсай. Асабліва цікавыя публікацыі знайшоў у газетах «Губернские ведомости», «Варшавский дневник», «Виленский вестник», у іншых. Яны адлюстроўваюць, як праходзіла свята ў Беларусі, адбываючыся спачатку ў школе, потым у царкве. Захаваліся нават сцэнарыі былых святаў, не трэба нічога новага вынаходзіць, у сцэнарыі так і запісана: «Дабы была польза практическая». І ў кожнай школе былі партрэты Кірылы і Мяфодзія, каб кожны вучань ведаў, хто стварыў нашу азбуку. Не ўпэўнены, што сёння кожны славянін здолее адказаць на гэта пытанне.

*— На нарадзе, якая адбылася ў Мінску напярэдадні свята, вы выказалі крытычныя заўвагі кіраўніцтву рэспублікі, сказалі, што беларусы недастаткова, на вашу думку, выкарыстоўваюць магчымасці для развіцця і пашырэння сваёй роднай мовы, культуры, нават калі цяпер такія магчымасці ёсць. Што вы мелі на ўвазе?*

— Я сказаў адкрыта тое, што думаю. І яшчэ сказаў, што, каб быў арганізатарам свята, то склаў бы для яго іншы сцэнарый. Два гады назад старшынёй арганізацыйнага камітэта быў Мікалай Дземянцей. Я настойваў, што не трэба пачынаць свята з ускладання кветак да помніка Леніну, для гэтага будзе іншая нагода. А ў такі дзень лепш ушанаваць Багдановіча, Купалу, Коласа. Мінуў час, і мне гаварылі, што я меў рацыю. Але сёлета нічога не змянілася.

*— Два гады назад свята пачыналася амаль што як палітычнае, сёлета — як рэлігійнае. А свайго аблічча яно так і не набыло?*

— Не, і не ведаю, калі яно з'явіцца, бо свята праходзіць міма школ, міма універсітэтаў. Два гады я па сваёй волі працаваў у 64-й школе Мінска. У ёй бывалі пісьменнікі Гілевіч, Законнікаў, мастак Ждан. Там праводзіліся Каляды. Да новага навучальнага года павінна быць аформлена зала, я перадаў свае матэрыялы пра балгарскіх асветнікаў. Дружба з гэтай школай — рэальная магчымасць супрацоўніцтва беларускіх і балгарскіх школьнікаў. Дзеці маглі б паехаць у Балгарыю на бартэрнай аснове. Калі ў эканоміцы ўсё рушыцца, многае можа зрабіць культура. Дамагаўся і я, і школа, каб ёй прысвоілі імя Кірылы і Мяфодзія. Але ўсё дарэмна. У вярхах ніяк не могуць рашыць, хто павінен прысвойваць імя школе. Два гады назад перакладаўся гімн Кірылы і Мяфодзія на беларускую мову, рабіўся запіс, але яго згубілі. Што будзе сёлета гучаць на свяце? Рэлігійная музыка? Усё трэба пачынаць зноў, рабіць новыя выдаткі.

*— Пётр, вы кандыдат гістарычных навук, называеце сябе выкладчыкам. Хто вы па спецыяльнасці?*

— У мяне дыплом выкладчыка рускай мовы і літаратуры, маю спецыяльнасць выкладчыка балгарскай мовы, гісторыі, скончыў дыпламатычную акадэмію, пісаў работу пра ўз'яднанне Балгарыі ў 1885 годзе і ролю рускай дыпламатыі. Мяне здзівіла, што ў той час існавала рускае пасольства ў Сафіі консульствы ў Плоўдзіве, Русе, іншых гарадах, а пра ўтварэнне новай дзяржавы Расія доўга не ведала. Гэты дзіўны факт сведчыў аб хібах рускай тагачаснай дыпламатыі. Аднак тэму маю закрылі, сказалі, што публікацыі не будзе.

*— Што вам як філолагу дало знаходжанне ў Беларусі?*

— Для мяне гэта духоўнае ўзбагачэнне. Акрамя таго, я ўжо амаль размаўляю па-беларуску, нават некалькі разоў выступаў па радыё.

Мне думаецца, што беларускі бок павінен быць больш патрабавальным да замежных дыпламатаў і настойваць на веданні беларускай мовы, як гэта адбываецца паўсюль у свеце. У 1990 годзе быў прыняты Закон аб беларускай мове, і я адразу ж зрабіў прапанову ў аддзел асабовага саставу кадраў нашага Міністэрства замежных спраў, купіў і накіраваў у Сафію падручнікі, каб дыпламаты, якія прыедуць пасля нас, ведалі беларускую мову. Аднак і беларусам варта паводзіць сябе больш рашуча, ствараць такую абстаноўку, каб дыпламату без ведання мовы тут не было чаго рабіць. У Беларусі ж склалася дзіўная сітуацыя — народ жывы, а мова мёртвая.

У Балгарыі багата прадстаўлена беларуская літаратура — і класіка, і сучасная. Вялікая заслуга тут Ніла Гілевіча і яго школы. Літаратура — гэта акно Беларусі ў Балгарыю. Каб Беларусь сваёй літаратурай, культурай у такім жа аб'ёме была вядомай у іншых краінах, гэта дапамагло б ёй лягчэй і хутчэй увайсці ў Еўропу, уключыцца ў сусветны літаратурны працэс. Я б наогул прапанаваў невялікім дзяржавам згрупаваць свае сілы. Паміж славянскімі дзяржавамі, невялікімі краінамі павінна быць сувязь. У вялікіх дзяржаў сёння адны інтарэсы, заўтра другія. А маленькія дзяржавы, аб'яднаўшыся, могуць, калі не дыктаваць, то хаця б прымусіць лічыцца з сабой. Пакуль што гэта не атрымліваецца паміж славянскімі дзяржавамі. А яднанне неабходна.

*— Тут ужо вы загаварылі як дыпламат. І ў такім разе адкажыце, што вам дало знаходжанне ў Беларусі як дыпламату.*

— Таксама вельмі многа і ў сэнсе набыцця жыццёвага вопыту, і ў сэнсе набыцця дыпламатычнага багажу. У дыпламата павінна быць многа сустрэч, кантактаў на ўсіх узроўнях: з журналістамі, пісьменнікамі, дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі, каб адчуваць жыццё краіны, што вакол яго адбываецца. І аналіз трэба ўмець рабіць, каб улоўліваць усе напрамкі і ўсе змены. У мяне вельмі многа сяброў, і больш не ў вярхах.

*— Вы тут перажылі пераломны момант у гісторыі Беларусі. У вас на вачах яна стала незалежнай, з саюзнай рэспублікі ператварылася ў дзяржаву. Ці адбілася гэта на вашай рабоце?*

— Я яшчэ больш пераканаўся, што беларускі народ надзвычай блізкі да балгарскага. У нашых лёсах многа агульнага. І вы, і мы былі паднявольнымі. Тут ішлі працэсы русіфікацыі, паланізацыі, у нас — ісламізацыі.

*— І ўсё ж, у нас захавалася такое ўражанне, што турэцкае ярмо больш падобна на рабства.*

— З гэтай нагоды наша пісьменніца гісторык Вера Мутаўчыева нядаўна напісала артыкул, дзе заўважае між іншым, што ў часы турэцкай няволі быў балгарскі фальклор і былі песні.

*— І мову сваю балгары захавалі.*

— У часы таталітарызму, хоць і тайна, людзі расказвалі анекдоты, смяяліся, думалі. А зараз быццам бы дэмакратыя, аднак няма ні анекдотаў, ні песень. Вось і маем: каб чалавек адчуў свабоду, неабходна задаволіць яно матэрыяльныя запатрабаванні, а інакш навошта яму дэмакратыя. У багатых дзяржавах няма ні рэлігійных, ні нацыянальных, ні культурных праблем.

Нашу гаворку я хацеў бы закончыць невялікай прытчай. Народ адной краіны паўстаў супраць цара, які кіраваў ім больш за 30 гадоў. Кожнаму цару патрэбны новы касцюм. «У мяне ён з золата,— сказаў правіцель.— І не хапае толькі аднаго рукава. А прыйдзе новы, яму давядзецца зноў шыць касцюм поўнасцю». Падумалі людзі і пакінулі старога цара.

**Гутарку вяла**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## БЕЛАСТОЦКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ



# ПОМНІКІ ПРЫРОДЫ

**(ЗАПІСАНА АД ВАЯВОДСКАГА ЗАХАВАЛЬНІКА СЛУЖБЫ АХОВЫ ПРЫРОДЫ Тадэвуша ХАЙНОЦКАГА).**

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства налічваецца 599 помнікаў прыроды. Сярод іх — 521 дрэваадзіночка, 19 груп і алей, а таксама 59 валуноў. З дрэў найчасцей за ўсё сустрэнеш дубы, 186 адзінак і 5 груп, у якіх растуць ад 2 да 37 дрэў гэтага віду. Акрамя таго ёсць вязы, сосны, ліпы. Найбольшая колькасць дрэўпомнікаў знаходзіцца ў Белавежскай пушчы: 208 адзінокіх дрэў і 5 груп. З іх 185 дубоў, 25 сосен, 22 ясені, 9 ліп, 9 хвой, 4 алешыны. Многа помнікавых дрэў зарэгістравана ў Бельск-Падляшскай гміне (38 адзінокіх і 3 групы), у Беластоку 34, у Гарадоцкай гміне 24 і 6. Самыя вялікія дубы дасягаюць 230 сантыметраў у дыяметры (гэта больш за 7 метраў у акружнасці: ліпы —200 сантыметраў, больш 6 метраў у акружнасці; сосны — 160 сантыметраў, звыш за 5 метраў абводу).

Больш за ўсё валуноў выпадае на Сідра, там іх 18. У Саколцы 6, Гарадку 5.

Аднак з сумам трэба заўважыць, што некаторыя помнікі прыроды гінуць. Старыя дрэвы ўміраюць альбо ад старасці, альбо ад экалагічных хвароб: паніжэння ўзроўню грунтавых вод, забруджвання зямлі і паветра таксічнымі рэчывамі. Помнікавыя ж валуны зачынаюць нішчыць каменячосы, якія выrabляюць з іх пліты для надмагільных помнікаў.

**НА ЗДЫМКАХ: валуны ў Пагрэбах; вяз вышынёй 32 метры ў Кляшчэлях.**







Вечар памяці першага беларускага народнага артыста Уладзіслава Галубка адбыўся ў Доме работнікаў мастацтваў у Мінску. Сваімі ўспамінамі аб ім падзяліліся артысты, паэты, мастакі — людзі, чый жыццёвы шлях перасёкся з нялёгкай дарогай вялікага акцёра, рэжысёра, паэта і мастака. У. Галубок многа паспеў зрабіць для беларускай культуры, для развіцця нацыянальнага тэатральнага мастацтва. І яшчэ многае мог бы паспець, калі б не трагічны 1937 год...

НА ЗДЫМКАХ: з успамінамі аб сустрэчах з Уладзіславам Галубком выступае народная артыстка Стафанія СТАНЮТА; фальклорны ансамбль «Церніца» выконвае народныя песні.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## *НАША СПАДЧЫНА*

# АБ ЧЫМ РАСКАЗАЎ КУФАР

I

Сустрэча з народным мастацтвам заўсёды прыносіць чалавеку радасць. Зусім не важна, у якім жанры ці якім відам гэтая творчасць прадстаўлена. Галоўнае, каб мастацтва, увасобленае ў гліняным збанку, абрадавай песні, народным карагодзе ці вясельным каравai, загучала радасным рэхам у нашых душах, сагрэла сэрца, узбагаціла розум. Сапраўднае народнае мастацтва ўзнікла на лепшых традыцыях, выпешчана вялікай любоўю да свайго народа, да памяці продкаў. Карані такога мастацтва ў глыбокай старажытнасці, яно здольнае ўплываць на эмацыянальны і душэўны стан чалавека. Пройдуць гады, стагоддзі, многае стане іншым. Сапраўдная прыгажосць, створаная таленавітымі рукамі, будзе жыць вечна.

Апошнім часам усё часцей у газетах і часопісах друкуюць артыкулы пра майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, аматараў жывапісу, пра народныя звычаі і абрады. Ёсць таксама выданні пра ганчарства, народнае адзенне, ткацтва, саломапляценне, разьбу па дрэву, кавальства. Вядома, што не ўсе гэтыя кнігі ды артыкулы раўназначныя, не ўсе аднолькава цікавыя і карысныя для чытачоў. У сховішчах многіх нашых музеяў ёсць цудоўныя матэрыялы, вартыя ўвагі даследчыкаў. Аднак здаецца мне, што гэта кропля ў параўнанні з тым, што ёсць яшчэ ў бабуліных куфрах ды сенцах, у клеці ды на гарышчы вясковай хаты. А колькі цікавага захавалася ў памяці народнай! Нядаўна давялося знайсці унікальны прадмет — вясельную спадніцу з палатна хатняй работы. Спадніца прыемнага вішнёвага колеру, упрыгожана стужкамі такога ж колеру. Мадэль вырабу характэрная для свайго часу. Жанчына, што перадала спадніцу ў музей, з гонарам расказала:

— У гэтай спадніцы брала шлюб яшчэ мая бабуля. Была яна тады зусім маладзенькая. Пражыла бабуля больш за дзевяноста гадкоў і памерла на пачатку нашага стагоддзя...

Самой жанчыне ўжо каля васьмідзесяці, але яшчэ жвавая, гаваркая, многае яна памятае, а нешта, вядома, і забылася. Згадзіцеся, што такая сустрэча вельмі карысная, узбагачае не толькі інфармацыяй. Ведаю, што нехта запярэчыць, маўляў, гэта рэдкі выпадак. Спрачацца не буду, не кожны дзень можна сустрэць такую жанчыну ці набыць такі рэдкасны экспанат. І ўсё ж... Пакуль збіралася напісаць гэты артыкул, мне давялося змераць пешкі дарогі і сцяжынкі паміж многімі вёскамі і пасёлкамі Гродзеншчыны, паглядзець многія куфры і тое, што ў іх, паслухаць многіх бабуль і дзядуль.

[Заканчэнне на 8-й стар.].

## З ПОПЕЛУ НЕБЫЦЦЯ

# КОЖНЫ ДЗЕНЬ, КОЖНЫ ЧАС, БЕЛАРУСЬ!

Жыўшы ў Нямеччыне, кампазытар, апрача вышэй названага, займаўся таксама распрацоўваньнем нацыянальнага стылю царкоўнае музыкі. Ён закончыў «Літургію Сьв. Яна Хрызастома» і «Усяночную» (1948), а таксама «Вялікодны канон», выкарыстоўваючы папеўкі з народных песьняў, гэткія як «На Йвана ночка маленькая», «Радзі, Божа, жыта» і «Ці ня быстрая рэчка». Ягоныя спробы аднавіць цыкль «Актаэхас» (васьміргаласьнік) на народных папеўках былі менш удалымі: у іх неставала разнастайнасці, яны зашмат паўтараліся, былі на мяжы мэханічнасьці. Нават у сваіх вольных кампазыцыях катэдральных гімнаў, прыкладам «Иже херувимы» (н-ры 2 і 3), ён уводзіў элемэнты народнае музыкі. Ён рэдка «цытуе» народныя песьні, як гэта рабіў Равенскі ў сваёй царкоўнай музыцы, але ён здолеў выкарыстоўваць нюансы ды «ўлоўліваць іхны водар», як гэта ён рабіў у сваіх сьвецкіх харавых творах. Часамі, шукаючы кантрастаў, ён, як прыкладам у «Благослови, душе моя» і «Верую» зь ягонае «Літургіі» (1948), карыстаўся акадэмічным стылем Іпалітава-Іванава і Анцава.

Калі на Захадзе зьявіўся вольны беларускі друк, Куліковіч-Шчаглоў здолеў таксама аднавіць сваю дзейнасьць як музычны крытык і гісторык, друкуючы свае артыкулы ў гэткіх выданьнях, як газэта «Бацькаўшчына».

Ён працягваў таксама зьбіраць матар'ял да свае вялікае працы «Беларуская народная песьня» — грунтоўнае дасьледаваньне беларускага музычнага фальклёру. Яна складалася зь дзьвюх частак: «1. Гістарычныя даныя аб беларускім песенным фальклёры: цыклі, жанры і формы песеннасьці» і «2. Аналіз музычнае структуры беларускай творчасьці». Гэты манумэнтальны праект застаўся нясконченым, хоць ладныя часткі былі ўжо гатовыя да друку, калі Куліковіч памёр.

У 1950 годзе Куліковіч-Шчаглоў эміграваў у Злучаныя Штаты, дзе ён пасяліўся на кароткі пэрыяд у Нью-Ёрку і зарабляў спачатку на пражыцьцё музычнымі лекцыямі і ігрой на піяніна. У гэтым часе ён сустрэў і ажаніўся з Надзеяй Градэ, прыгожай былой прымадоннай Кіеўскае і Венскае опэраў. Выдатнае сапрана Градэ, якому апладыраваў Сталін, у спалучэньні са значнымі здольнасьцямі Куліковіча як акампаньятара, далі магчымасць гэтай пары працягваць іхнюю музычную прафэсію ў партнэрстве: яны выступалі з канцэртамі ў Злучаных Штатах і Канадзе. Праграма звычайна ўключала нумары з багатага клясычнага рэпэртуару Градэ (Пучыні, Гуно, Бізэ, Манюшка, Рахманінаў, Андрыты) разам з выбарам арыяў і канцэртных апрацовак народных песьняў Куліковіча, Туранкова, Карповіча ды іншых беларускіх кампазытараў («Васількі», «Што за месяц», «Алеся», «Жаваронак», «Халімон», «Вясьнянка» ды іншыя).

Куліковічы нарэшце асяліліся ў Чыкага, сусьветна ведамым музычным цэнтры, дзе ад 1890-х гадоў сяліліся Беларусы ды дзе была важная й актыўная беларуская грамада.

У Чыкага Мікола Шчаглоў і Надзея Градэ хутка ўстанавілі рэпутацыю, іх рэгулярна запрашалі на выступленьні як гарадзкі Камітэт культуры на летнія канцэрты ў парку імя Гумбольта, гэтак і Аб'еднаньне Мастакоў Чыкага — на выступы ў Тэатры Музычнае Мініятуры. Зразумела, ніводнае беларускае сьвяткаваньне не абыходзілася бязь іхняга ўдзелу, асабліва адзначэньні ўгодкаў Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка. Часамі бралі яны ўдзел і ў канцэртах іншых этнічных групаў, асабліва ўкраінскіх, польскіх і расейскіх.

Штодзённая дзейнасьць кампазытара Куліковіча складалася зь індывідуальных лекцыяў музыкі выбраным вучням, якім ён арганізоўваў канцэрты ў залі Джозэфінскае сярэдняе школы. Там-жа ў лютым 1957 году адбыўся вялікі канцэрт клясычнае беларускае музыкі з удзелам выдатнага беларускага сьпевака-баса Пётры Конюха і Надзеі Градэ.

Куліковіч быў таксама на працягу 12 гадоў кіраўніком хору грэка-каталіцкае (вуніяцкае) царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Хоць ён і прабаваў увесьці ў рэпэртуар хору некаторыя свае экспэрымэнтальныя кампазыцыі, гэткія як «Тебе поем» (беларускі напеў) і «Отче наш», ён пабачыў, што цяжка замяніць усталяваную сынадальную традыцыю. Тым ня менш, ён бесьперапынна пісаў новыя літургічныя працы. Ягоны хор выступаў часамі на канцэртах ды браў удзел у экумэнічных багаслужбах, узначальваных каталіцкім кардыналам Стрыхам.

Як чалавек свабодны ад «штучнага вытанчэньня», ён у ніякім выпадку не абмяжоўваў сябе да клясычнага мастацтва й фальклёру. Цыганскія песьні, танга, кабарэтныя бальляды ды лёгкая музычка — усё прыцягвала ягонае зацікаўленьне, і калі ў яго неставала грошай, ён заўсёды быў гатовы надзець акардэон і, за належную плату, унесьці свой уклад у вясёлую атмасфэру.

У Амэрыцы Куліковіч-Шчаглоў займаўся далей і журналізмам, рэцэнзуючы канцэрты ды пішучы артыкулы аб розных музычных аспэктах для беларускага замежнага друку; ён пісаў таксама для «Нового Русского Слова» і «России», цірэдчас на тэмы, зьвязаныя зь беларускай музыкай: творы Глінкі, Манюшкі, Грэчанінава, Іпалітава-Іванава.

У 1953 годзе Куліковіч-Шчаглоў апублікаваў гістарычны агляд «Беларуская музыка». За гэтым выйшла большая праца — «Беларуская савецкая опэра» (Мюнхэн, 1957), у якой апісаныя рэпрэсійныя абставіны, пры якіх даводзілася працаваць савецкім кампазытарам, ды ўплыў гэтых абставінаў на музычную творчасьць.

Неразлучным спадарожнікам кампазытара й музыкалёга была аднак нявычэрпная прыгажосьць беларускай народнай музыкі, што паланіла ягонае ўяўленьне ды прайшла як залатая нітка праз усю ягоную творчасьць. Ад ягонае раньняе «Беларускае сюіты», выкананае ў Адэсе, праз ягоныя сымфоніі й іншыя інструмэнтальныя творы, ягоныя опэры, піянінныя кампазыцыі, патрыятычныя песьні, рамансы, праз ягоную незраўнаную царкоўную музыку — гучыць рэха тых дзіўных, ня з гэтага сьвету песьняў: «Радзі, Божа, жыта», «На Йвана ночка маленькая», «А ў нас сяньня вайна была» ды шмат сотняў іншых, якія ён так беззаганна гарманізаваў. Некаторыя з гэтых песьняў, расьпісаныя для дуэту, трыё, або чатырохгалосага хору ці аднагалосыя для суправаджэньня пад акампанімэнт піяніна, увайшлі ў ягоныя найлепш знаныя выданьні, абодвы загалоўленыя «Беларускі песенны зборнік», што выйшлі ў Амэрыцы ў 1955 і 1960 гадох.

Першы зборнік выйшаў ратапрам у дзьвюх частках, блытана панумараваных 1 і'5(!), у выдавецтве Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Кліўленьдзе ў штаце Агаё. У яго ўвайшлі розныя сэзонныя й абрадавыя песьні, а таксама рамансы й патрыятычныя творы, запісаныя або гарманізаваныя Р. Шырмам, З. Радчанкам, Ул. Тэраўскім, Сахаравым, Сербавым, Ягоравым і Сакалоўскім, але найбольш Куліковічам-Шчагловым.

Другі зборнік быў выдадзены грунтоўней, друкам, тым-жа Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў Кліўленьдзе. У ім больш за 90 песьняў і танцаў, усе апрацаваныя Куліковічам-Шчагловым, галоўна для галасоў зь піянінным акампанімэнтам. Песьні падзеленыя на пяць катэгорыяў: гістарычныя рамансы й песьні на словы беларускіх паэтаў, лірычныя й народныя, папулярныя бальляды ды гульні й танцы. Гэта — толькі частка із спадчыны кампазытара ў гэтай галіне, але сюды ўключана найбольш ягоных улюбёных твораў: «Песьня каліноўцаў», «Ты прыйдзі», «Каб была я перапёлкай», «Васількі», «Позна сонца».

Невялікі зборнік з 14 калядкамі пад заг. «Калядоўшчыкі» выйшаў у Кліўленьдзе ў 1961 годзе з добра гарманізаванымі «А ў сьвеце нам», «Учора зьвячора» ды «Ой, на моры, моры».

Пару Куліковічаных песьняў выйшла ў англамоўных зборніках, у тым ліку прыгожы харал на чатыры галасы.

Апошнім выданьнем ягоных твораў, таксама выпушчаным Арганізацыяй Беларускае Моладзі, быў зборнік каля 60 твораў — «Беларускія песьні і танцы для акардэону» (Кліўленд, 1967). Куліковіч ставіўся да акардэону паважна, як да народнага інструмэнту, і з ахвотай даваў лекцыі маладым вучням.

Пад канец сваіх гадоў ансамбль Куліковіч—Градэ выступаў радчэй, і наш мінэстрэль вярнуўся да лёгкай музыкі: ён апрацаваў для акардэону найбольш папулярныя традыцыйныя беларускія мэлёдыі.

Дзівугодны факт, што бальшыня творчае спадчыны гэтага выдатнага музыкі (у тым ліку ягоныя творы для аркестры, камэрныя, піянінныя й опэрныя) засталася неапублікаванай. Сотні ягоных цудоўных аранжыровак беларускіх народных песьняў для мяшанага хору — разам узятыя, бадай, найвыдатнейшае ягонае дасягненьне — ніколі ня выконваліся, ня кажучы ўжо пра выданьне, хоць Градэ добра ўсьведамляла сабе іхную вартасьць і пераховўвала іх у банкавым сэйфе.

Перагляд збору ягоных рукапісаў — як наведаньне Алядынавае пячоры, такая ў іх багатая разнастайнасьць музычных зацікаўленьняў. Ён піша музыку для песьняў у ангельскай, украінскай, польскай, нямецкай, расейскай мовах, у тым ліку колькі дасканальных мэлёдыяў

Заканчэнне. Пачатак у № 22.

на словы Пушкіна. Яму асабліва добра ўдаюцца музычныя мініятуры, у якіх беларускі матыў распрацаваны ў піяніннную фантазію; сюды належыць невялікая вязанка елегантных кампазыцыяў, гэткіх як «Купалінка», «У бары сасна калыхалася», «Пайшоў Ясь наш на лужок» ды іншыя. Для хору Данскіх Казакоў свайго даўнага сябры Сяргея Жарава ён распрацаваў цудоўную вэрсію «Атаман Кудрыя й дванаццацёх разбойнікаў», а жараўцы адказалі на гэта выкананьнем (вядучы голас — бас Пётра Конюх) «Магутны Божа» Равенскага па-беларуску.

Нельга не палюбіць кампазытара, які мог лёгка й спраўна пераключацца з удасканальваньня пакупэрэнаўску свае піяніннае сюіты «Беларускія мініятуры» або са сьветлых вышыняў гімну «Ты, Госпадзе, мой Збаўца» для катэдральнага хору й арганаў на сьмяшлівую «На пэрсыдзкім кірмашы» для весяльчакоў у клюбе ці на задушэўную песеньку «Абдымі, пацалуй, каханьне цудоўнае сёньня». Я шмат аддаў-бы, каб паслухаць ягоную «Кантату пра Сталіна».

У апошнім дзесяцігодзьдзі свайго жыцьця ён вярнуўся да захапленьня з часоў маладосьці — царкоўнае музыкі. Праз свайго сябру бібліёграфа Аўгена Калубовіча ён даведаўся пад канец 1950-х гадоў пра старабеларускія «Ірмалой» і «Багагласьнік», зь якіх апошні быў беспасярэдня зьвязаны з паралітургічнай і народнай музыкай. Зварот да гэтых традыцыйных крыніцаў даў-бы адказ на праблему стварэньня адноўленага аўтэнтычнага беларускага Актаэхасу, што кампазытар спрабаваў быў зрабіць раней толькі пры дапамозе народных папевак, з рознай ступеняй удачы. З гэтага гледзішча ягоныя два артыкулы ў газеце «Бацькаўшчына» («Ці ня час закрануць пытаньне» і «Пытаньне беларускае багаслужбы», 1960 г.) становяць свайго роду маніфэст за зварот да нацыянальнае самабытнасьці ў разьвіцьці царкоўнае музыкі.

Увесну 1969 году, рыхтуючыся да адзначэньня 51-х угодкаў 25 Сакавіка, Мікола Куліковіч-Шчаглоў захварэў і памёр 31 сакавіка. Ягоная верная спадарожніца-артыстка й жонка Надзея Градэ крыху ўпарадкавала ягоныя рукапісы перад тым як сама памерла ў 1984 годзе. Свой каштоўны архіў разам з архівам свайго геніяльнага мужа яна передала, як ён гэтага жадаў, Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, разам з усімі неапублікаванымі творамі й рукапісамі (і ладную суму грошай), якія ейны выканавец сп. Антон Беленіс ды прафік-дызайнэр і ведамы бібліяфіл Часлаў Будзька, жыхары Чыкага, апісалі і ўпарадкавалі перад адасланьнем у Лёндан.

Вялікае дасьледаваньне павінна быць праробленае яшчэ як у Савецкім Саюзе, гэтак і на Захадзе, каб належна ацаніць творчую спадчыну Міколы Куліковіча-Шчаглова, гэтага працавітага, адданага й прывабнага чалавека.

Адно можна з пэўнасьцяй сказаць: дзе-б галасы беларускіх патрыётаў ні ўздымаліся ў сяброўскіх згадках і чаркі наліваліся ў памяць адсутных сяброў, песьні, што гучаць найчасьцей з вуснаў удзельнікаў такой бяседы — гэта ўлюбёныя творы спад пяра аднаго з тых, хто так непаслабна й аддана ахвяроўваў іх табе — «кожны дзень, кожны час, Беларусь».

**Гай ПІКАРДА.**

*Артыкул надрукаваны ў скарачэнні.*

ПОШУКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЦЯЎ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

# «ДЗЕ МАЁ ДАБРО?»

ПРА ЛЁС нацыянальных мастацкіх каштоўнасцяў беларусы загаварылі зусім нядаўна. І вельмі нясмела. Сітуацыя падобная на тую, калі прачнуўся аднойчы раніцай гаспадар у сваёй хаце, агледзеўся, працёр вочы і знямеў: ляжыць ён на падлозе, ледзь прыкрыты нейкім рыззём, усё нажытае за доўгія гады некуды пазнікала: ні ложка, ні тканых жонкай ручнікоў, ні абраза на сцяне — усё знікла, быццам бы і не было. Пачухаў мужык патыліцу, развёў рукамі і ціхенька запытаўся: «Дзе маё дабро?» Але яго ніхто не пачуў.

У выніку шматлікіх войнаў, а таксама і ўласнай нядбайнасці бясцэнныя мастацкія каштоўнасці, створаныя народам на працягу доўгай гісторыі, апынуліся за межамі Беларусі, упрыгожваюць музеі, ляжаць там у запасніках, часта невядомыя і недаступныя для беларускіх даследчыкаў.

**Экспанаты Віленскага Беларускага музея раскіданы па запасніках літоўскіх музеяў.**

У недалёкія яшчэ гады эпохі развітога сацыялізму беларусы як быццам саромеліся ці баяліся гаварыць пра свае правы на тыя багацці, што знаходзяцца ў іншых краінах — асабліва на Украіне і ў Расіі. А калі нехта пачынаў гаварыць пра гэта, то яго ўспрымалі як крутога нацыяналіста. Дзейнічаў прынцып: усё навокал савецкае, агульнае, нічыё. Да чаго гэта прывяло, ужо вядома. Найбольш каштоўнае сцягвалася ў цэнтр, разбазарвалася, а самі абкрадзеныя (гэта мы з вамі, шаноўныя мае супляменнікі, жыхары Беларусі) сталі хварэць на нацыянальную непаўнацэннасць.

Інакш быць і не магло.

**У нацыянальным музеі ў Варшаве знаходзяцца карціны Рушчыца, Ваньковіча, іншых беларускіх мастакоў. У цэнтральным архіве старажытных актаў у Варшаве шмат беларускіх матэрыялаў.**

У 1987 годзе на хвалі новага беларускага адраджэння групай энтузіястаў пры Беларускім фондзе культуры была створана камісія «Вяртанне», якая зрабіла першыя крокі па высвятленню лёсу шматлікіх твораў мастацтва, вывезеных або знікшых з рэспублікі, складанню фундаментальнай картатэкі ўсіх каштоўнасцяў, што апынуліся за межамі Беларусі. Пазней да гэтай работы далучыўся нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Але задача аказалася надзвычай складанай, з мноствам невядомых. Па кропельках збіралася інфармацыя, у розныя краіны свету былі накіраваны лісты з запытаннямі, работнікі архіўнага ўпраўлення, музеяў, бібліятэк і архіваў працавалі ў суседніх краінах з мэтай высвятлення наяўнасці там беларускіх матэрыялаў.

**У 1920-м годзе перад наступленнем Чырвонай Арміі Мінскім таварыствам аховы помнікаў былі адпраўлены ў Варшаву на часовае захаванне 600 скрыняў, дзе знаходзіліся 36 тысяч музейных экспанатаў.**

Замежныя суайчыннікі, даведаўшыся, што Беларусь нарэшце апрытомнела і пачынае пошук страчанага ёю, напачатку не спяшаліся вяртаць на Радзіму культурную спадчыну. Грамадзянін Польшчы Юзэф Шыманьчык перадаў БФК 82 здымкі этнаграфічнага характару, Анджэй Цеханавецкі з Англіі — слуцкі пояс, а таксама старадрук для Полацкага музея гісторыі беларускага кнігадрукавання. І, бадай, усё.

Але справа, хоць і не хутка, а пачала рухацца. Былі скапіраваны ў архівах ЗША трафейныя дакументы з «Каталога дакументаў фашысцкай Германіі перыяду другой сусветнай вайны», пачалася падрыхтоўка да выдання даведніка «Беларускія матэрыялы ў архівах СССР», а таксама мэтанакіраваны пошук нацыянальнай рэліквіі — Крыжа Ефрасінні Полацкай.

**У канцы жніўня 1941 года былі вывезены ў Кёнігсберг найбольш каштоўныя карціны, вазы, калекцыя слуцкіх паясоў з Мінска.**

Вядома, што да чэрвеня 1941 года Крыж разам з іншымі каштоўнымі экспанатамі захоўваўся ў Магілёўскім абласным гістарычным музеі. Дарэчы, у 1941 годзе з Магілёва зніклі дзесяткі калекцый, і, як лічыць вядомы даследчык беларускай культуры А. Мальдзіс, шукаць іх трэба ў сукупнасці, таму што адна знаходка можа вывесці на след іншых.

**У 1916—1917 гадах з Вільні ў Гамбург нямецкія акупацыйныя ўлады вывезлі беларускія рукапісы і акты XVI—XVIII стагоддзяў.**

**У калекцыю Магілёўскага музея ўваходзілі залатыя і сярэбраныя ключы Магілёва, сярэбраныя пячаткі горада, залатыя ўпрыгажэнні, знойдзеныя пры раскопках Пампеі, кубкі з выявамі Пятра І і Аляксея Міхайлавіча, залатыя і сярэбраныя крыжы, дарахавальніцы, кадзільніцы, карціны, троннае крэсла, шабля Напалеона, кальчуга з кургана Быхаўскага павета, 26 каралеўскіх грамат XVI—XVIII стагоддзяў, Збор беларускіх рукапісных і старадрукаваных кніг (175 адзінак), халодная і агнястрэльная зброя X—XIV стагоддзяў (280 адзінак), этнаграфічнае беларускае адзенне (XVII — XIX стагоддзі) і многаемногае іншае.**

Што ж датычыцца самога Крыжа, то карпатліва правяраюцца некалькі версій — морганаўская, ракфелераўская, аўстралійская, а ў сувязі са з'яўленнем у прэсе новых матэрыялаў узнікаюць і зусім новыя версіі, напрыклад, маскоўская, па якой усе каштоўнасці, больш за 2 тысячы прадметаў, з Магілёўскага музея перад прыходам немцаў забралі работнікі НКУС і перавезлі ў Маскву. Калі гэта так, то павінны быць вопісы, і трэба рабіць афіцыйны запыт Расіі.

У вялікім і грунтоўным дакладзе, прачытаным на пленуме праўлення БФК, які адбыўся ў пачатку мая ў Мінску, старшыня камісіі «Вяртанне» А. Мальдзіс прааналізаваў сітуацыю, якая склалася на сённяшні дзень з вяртаннем мастацкіх каштоўнасцяў Беларусі.

**Ва ўкраінскай публічнай бібліятэцы знаходзіцца збор Храптовіча, укамплектаваны на Навагрудчыне. У першую сусветную вайну ён быў перададзены ў Кіеў на часовае захаванне.**

«Зразумела, далёка не ўсё мы зможам вярнуць назад,— адзначалася ў дакладзе.— У адным выпадку няма юрыдычных падстаў, у другім — не знойдзены архіўныя пацвярджэнні. Але ў большасці выпадкаў мы маем права патрабаваць, каб мастацкія каштоўнасці былі вернуты без тэрміну даўнасці і па закону спадчыннага ўладання. Так, як гэта і прадугледжана ў пагадненні аб вяртанні гістарычных і культурных каштоўнасцяў дзяржавам іх паходжання, падпісаным у Мінску 17 лютага 1992 года кіраўнікамі дзяржаў, што ўваходзяць у садружнасць».

**У Львоў нелегальна былі вывезены зборы мінскага калекцыянера Татура.**

Само гэта пагадненне не было апублікавана, але рэзананс, тым не менш, атрымала надзвычай шырокі. Да ведама чытача, адзін з яго артыкулаў прадугледжвае стварэнне міжурадавай камісіі для практычнай работы, а таксама нацыянальных камісій па складанню сістэматычных апісанняў культурных і гістарычных каштоўнасцяў. Па цэнтральным тэлебачанні было заяўлена, што расійскі ўрад не прызнае гэтае пагадненне, што яно, маўляў, супярэчыць міжнародным інтарэсам, інтарэсам саміх рэспублік, затым выступілі вядомыя расійскія вучоныя, якія пагардліва заявілі, што не дапусцяць расцягвання культурных і гістарычных каштоўнасцяў па нацыянальных вуглах і правінцыях.

**У Эрмітажы ў Пецярбургу знаходзяцца творы беларускага мастацтва, рукапісы з палаца Сапегі, вырабы Налібоцкай і Гродзенскай шкляных мануфактур XVIII стагоддзя, бронзавыя ўпрыгажэнні, касцюмы і г. д. Іх вываз не афармляўся дакументамі.**

Што ж рабіць у такой сітуацыі, калі адна з дзяржаў не лічыцца з дакументам, пад якім паставілі свае подпісы яе кіраўнікі? Напэўна, усімі спосабамі дабівацца, каб прынятае пагадненне выконвалася. Але гэтага мала. Як лічыць Адам Мальдзіс, трэба заснаваць навуковую структуру, якая выяўляла б адпаведныя матэрыялы і рыхтавала б іх да друку, праводзіла пашпартызацыю экспанатаў і ідэнтыфікавала іх у экспазіцыях і запасніках музеяў. Такая вялікая і адказная праца, відавочна, ужо не можа рухацца намаганнямі энтузіястаў. Самы час дзяржаве заапекавацца справай вяртання сваіх гістарычных каштоўнасцяў, вяртання яе былой славы і здабыткаў.

У рабоце пленума праўлення БФК прынялі ўдзел беларускія навукоўцы, а таксама тыя, хто займаецца беларусікай у Маскве, намеснік міністра культуры У. Гілеп, дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея Ю. Карачун, а таксама міністр замежных спраў П. Краўчанка. З яго выступлення прысутныя даведаліся, што міністэрства вядзе актыўную палітыку па пошуку нашых нацыянальных рэліквій. Нядаўна яно звярнулася да паслуг «Інтэрпола», адкуль раз у два месяцы атрымлівае інфармацыю па тых пытаннях, якія цікавяць Беларусь. Па сутнасці, гэта азначае, што наша рэспубліка ўпершыню пачала пошук на дзяржаўным узроўні. Міністр замежных спраў П. Краўчанка выказаў думку, што мы павінны цяпер сканцэнтраваць сілы на пошуку Крыжа Ефрасінні Полацкай і вяртанні Скарынавых выданняў. Ні адна з кніг беларускага асветніка ў нас цалкам не захавалася, у той час як яны ёсць па ўсім свеце і ў самых нашых блізкіх суседзяў.

**Дзяржаўная бібліятэка ў Маскве мае 82 экземпляры выданняў Скарыны, калекцыі магілёўскіх календароў.**

«Міністэрства замежных спраў Беларусі гатова ўжо сёння пачаць работу па канкрэтных пытаннях з Міністэрствамі замежных спраў Расіі, Літвы, Украіны,— заявіў П. Краўчанка.— Але ўсё трэба афарміць, аргументаваць, прадставіць архіўныя матэрыялы. Адзінае, што можа стрымліваць працэс, гэта тое, што з Расіяй у нас не ўсталяваны дыпламатычныя адносіны».

**У 1986 годзе ў Маскву для стварэння музея народнага мастацтва адпраўлена вялікая калекцыя беларускіх экспанатаў. Ёсць акты на іх адпраўку. Музей не створаны. Дзе экспанаты!**

П. Краўчанка таксама прапанаваў выкарыстоўваць камп'ютэрную сістэму свайго ведамства для складання картатэкі ўсіх каштоўнасцяў, якія апынуліся за межамі Беларусі.

Пленум праўлення БФК прыняў пастанову хадайнічаць перад Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь аб выдзяленні сродкаў на стварэнне ў складзе навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны спецыяльнага даследчага падраздзялення, якое займалася б выяўленнем, пашпартызацыяй і каталагізацыяй беларускіх каштоўнасцяў за рубяжом. І тады, маючы ўсю інфармацыю, аўтарытэт і павагу, беларусы нарэшце гучна і выразна вымавяць на ўвесь свет: «Вярніце нам наша дабро».

**Таццяна АНТОНАВА.**

*P. S. Днямі ў прэсе з'явілася інфармацыя, што расійскі парламент скасаваў пагадненне аб вяртанні гістарычных і культурных каштоўнасцяў дзяржавам іх паходжання, падпісанае ў Мінску 17 лютага 1992 года кіраўнікамі дзяржаў, што ўваходзяць у садружнасць. «Старэйшы брат» мяркуе чарговы раз прадэманстраваць свае вялікадзяржаўныя амбіцыі і эгаізм, замест таго каб праявіць добрую волю ў імя гістарычнай справядлівасці і наладжвання сапраўды добрасуседскіх, прыязных адносін з маладымі незалежнымі дзяржавамі СНД.*

# АБ ЧЫМ РАСКАЗАЎ КУФАР

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

Вясной, калі наступаюць святочныя дзянькі Велікадня (у Прынямонні Вялікдзень святкуюць двойчы: каталікі і праваслаўныя), даводзіцца бываць у некаторых вёсках. Запытайце, чаму менавіта ў гэтыя дні? Адкажу не задумваючыся: каб убачыць старэнькіх жанчын у белых ці чорных фартушках, аздобленых вышываным узорам, што прыгожа дапаўняюць сучаснае адзенне. Люблю ў гэтае свята паглядзець на размаляваныя ды фарбаваныя яйкі, абавязковы атрыбут Вялікадня. Цікава па мажлівасці пазнаць сакрэты прыгатавання фарбы старажытным спосабам. Вясковыя хаты быццам святлеюць ад цёплага вясновага сонейка і вымытых узорных фіранак. Абразы і чырвоны кут, так званая покуць, упрыгожаны тканымі і вышыванымі ручнікамі. Дарэчы, самыя светлыя, яркія ручнікі з бялюткімі і рознакаляровымі карункамі вешаюць менавіта на гэтае традыцыйнае свята. Ложак пакрываюць яркім дываном, падушкі складаюць «гарой», навалачкі таксама яркія з арнаментам з карункавых палосачак. На стале, палічках усялякія сурвэткі, абрус-сетка ўрачыста глядзіцца на адбеленым кужэльным настольніку. Ад усяго гэтага хата харашэе, становіцца яшчэ больш утульнай. Святочны сялянскі інтэр'ер быццам дорыць цяпло, святло, дабрабыт, душэўны спакой, ціхую зямную радасць кожнаму, хто пераступае парог хаты. Для многіх вясковых жыхароў Вялікдзень даўно страціў культавы сэнс, асабліва для маладых. Засталася сама яго форма. На жаль, многія вясковыя дзеці, асабліва школьнага ўзросту, да нядаўняга часу так былі настрашаны настаўнікамі, што не вельмі проста было ад іх выведаць, хто ў вёсцы размалёўвае яйкі. Разгаварыўшыся, хлопчык нечакана прызнаецца, што ён таксама пісаў усялякія кветачкі на яйках і што гэта вельмі цікава, толькі атрымліваецца яшчэ не так акуратна, як у старэйшых. А адзін пашкадаваў, што нельга ў школе паказаць маміны маляванкі: яны прыгожыя, бо мама па чорным яйку арнамент рабіла з дапамогай іголачкі... Дзякуй Богу, што цяпер погляды на традыцыйныя святы крыху змяніліся.

Беларуская маляванка вельмі прыгожая, па-свойму арыгінальная і мае сваю гісторыю. Наогул гэты від мастацтва — унікальная з'ява ў народным мастацтве, на жаль, амаль не вывучаная.

Не менш унікальныя і выразанкі, ці выцінанкі, як іх яшчэ называюць. Празрыстыя, быццам карункавыя, фіранкі, сурвэткі, абажуры для лямпы — і ўсё гэта з паперы выразана. Няма дзе прачытаць пра ёлачныя цацкі з жытняй саломкі, упрыгожванне ў старажытнасці каня і пра многае іншае, што таксама ёсць мастацтва і вылучаецца асаблівасцю фантазіі і майстэрства. Вельмі мала ведаем мы і пра кавальства, якое лічылася паважаным заняткам для селяніна. Цяпер нямногія майстры займаюцца гэтым рамяством. Добрых кавалёў адзінкі, і пра тых да нядаўняга часу мы амаль нічога не ведалі, пакуль не выйшла кніга вядомага даследчыка народнай творчасці Яўгена Сахуты «Беларускае народнае кавальства».

Здаецца мне, што адсутнасць літаратуры па тых ці іншых відах промыслаў ды рамёстваў, так неабходнай спецыялістам і шырокаму колу чытачоў,— гэта і ёсць «вынік» працы з музейнымі прадметамі, з выставачнымі экспанатамі, а таксама адсутнасць непасрэднага кантакту з жывымі яшчэ майстрамі. Раней рамяством займаліся «цэлыя вуліцы», а часам і ўся вёска. Так, напрыклад, было ў гарадскім пасёлку Поразава Свіслацкага раёна, у вёсцы Засецце Дзятлаўскага, Ганчарах Шчучынскага і іншых цэнтрах, дзе яшчэ на пачатку нашага стагоддзя ўсе жыхары былі ганчарамі. Вось толькі ў Поразаве рабілі задымленую кераміку, а ў Засецці і Ганчарах больш увагі надавалі глазураваным гаршкам, а таксама абварной кераміцы. Многія з старажылаў з радасцю дзеляцца сакрэтамі старадаўняга рамяства. Калі нават чалавек сам не ляпіў гаршкі ці не плёў прадметы з саломы, то ён жа рос у гэтым асяроддзі і, вядома, не быў зусім у баку ад таго, што рабілі бацька, ці маці, альбо суседзі. Такі чалавек часам больш раскажа цікавага і карыснага, чым скупы навуковы пашпарт, што часцей за ўсё толькі канстатуе знешні выгляд прадмета. Вядома, не кожны вясковец будзе надта гаваркі з прыезджым гараджанінам, але як толькі адчуе шчырую зацікаўленасць, а, галоўнае, бескарыслівасць — толькі паспявай слухаць ды запісваць. Гэтыя праблемныя пытанні хвалююць не толькі мяне, а кожнага, каму неабыякавы лёс і гісторыя народнага мастацтва Беларусі, яго будучыні.

Гродзеншчына, як і іншыя вобласці беларускага краю, была багатая цэнтрамі народнай творчасці. Пасля частковага вывучэння Мастоўскага, Лідскага, Шчучынскага, Свіслацкага, Гродзенскага, Астравецкага, Карэліцкага, Дзятлаўскага і іншых раёнаў узнікла жаданне паведаміць пра некаторыя народныя звычаі, што яшчэ зберагліся ў Прынямонні, пра цікавыя прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Усё, аб чым паведамлю,— гэта з крыніцы народнай творчасці Гродзенскай вобласці, якая вельмі чакае свайго даследчыка.

**Валянціна ВОЛАХ.**

## СПОРТ



**Міжнародныя спаборніцтвы па коннаму трохбор'ю на Кубак СНД прайшлі ў Ратамцы пад Мінскам. Мацнейшыя спартсмены краін садружнасці, кандыдаты ў Алімпійскую зборную СНД дэманстравалі манежную язду, майстэрства ў пераадоленні перашкод і шматкіламетровым кросе па перасечанай мясцовасці. Пераможцы атрымліваюць права паездкі ў Люмлін (ФРГ) на міжнародныя спаборніцтвы па прэзентацыі ўдзельнікаў Алімпійскіх гульняў.**

**НА ЗДЫМКУ: прыгожую манежную язду дэманструе на кані Факт майстар спорту міжнароднага класа з Беларусі Валерый ДАВІДОВІЧ.**

**Фота В. АЛЯКСАНДРАВА.**

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. У Францыі прайшоў чэмпіянат Еўропы сярод жанчын. Асобнай камандай тут выступала зборная Рэспублікі Беларусь. Найбольшага поспеху дамаглася алімпійская чэмпіёнка мінчанка Святлана Багінская. Яна заваявала залаты медаль у практыкаваннях на бервяне і заняла пятае месца ў мнагабор'і.

ШАХМАТЫ. Барыс Гельфанд з Беларусі стаў трэцім прызёрам на міжнародным турніры ў Мюнхене.

ГАНДБОЛ. Зборная СНД—пераможца розыгрышу Кубка Марана, што прайшоў у Францыі. Яна перамагла ў рашаючым матчы нацыянальную каманду Швецыі —22:19. За каманду былога Саюза, як заўжды, выступалі некалькі ігракоў мінскага СКА.

ДЗЮДО. Традыцыйны міжнародны турнір у Галандыі прынёс «золата» Святлане Селіханавай, «серабро» Вользе Тарасавай і «бронзу» Людміле Бядрыцкай. Так што выступленне дзяўчат з Беларусі можна лічыць удалым.

ТЭНІС. На адкрытым першынстве Расіі вызначыліся мінчане. М. Стэц стала чэмпіёнкай у адзіночным разрадзе, а пасля разам з Н. Нарэйка — і ў парным. Трэцяе месца ў мужчын заняў А. Самец.

ГРЭБЛЯ. Многіх «зорак» гэтага віду спорту сабраў у Маскве традыцыйны мемарыял Юліі Рабчынскай. Сярод тых, хто вызначыўся, беларускія весляры Сяргей Калеснік і Анатоль Цішчанка. Яны сталі пераможцамі спаборніцтваў.

## ДЗІВАКІ СЯРОД НАС



**Ва ўрочышчы Валенава пад Брэстам жыве надзіва абаяльны і жыццярадасны чалавек — Уладзімір Філіповіч. І хаця яму пайшоў 63-ці год, ён з юнацкай захопленасцю на зайздрасць мясцовым дзецям ходзіць на хадулях, ганяе мяч, абліваецца халоднай вадой, штодзённа гуляе па лесе, збіраючы лекавыя травы і гатуючы з іх гаючыя адвары. Да ўсяго, Уладзімір Дзянісавіч — вегетарыянец. Весці такі лад жыцця яго прымусілі даўнія дыягназы ўрачоў, якія пакідалі мала надзеі дажыць да сёмага дзесятка. Замалада не вельмі дужы здароўем, Уладзімір Дзянісавіч перад тым доўга і цяжка працаваў у Сібіры, пакуль не напаткаў яго прыгавор спецыялістаў: міякардыт сардэчнай мышцы, інваліднасць. Але ён перамог свае немачы, пасябраваўшы з прыродай, шырока скарыстоўваючы яе дары, удыхаючы чыстае вясковае паветра і займаючыся фізічнай працай. А некалькі гадоў назад, пазнаёміўшыся з пытаннямі рэгуляцыі кіслароду і вуглярода ў арганізме, правільныя суадносіны якіх прадоўжваюць жыццё, вырашыў Уладзімір Дзянісавіч пабудаваць на сасне нешта накшталт спальнага доміка, дзе і праводзіць амаль кожную ноч. Сон у хвойным лесе робіць, на яго думку, цела больш вынослівым, надае бадзёрасць і здароўе.**

**НА ЗДЫМКУ: цудоўна дыхаецца ў лесе.**

**Фота З. КАБЯКА.**

## ПАКАРЫЛІ ЭЛЬБРУС

Новы нацыянальны беларускі флаг, падобна, пачаў абжываць найвышэйшыя вяршыні свету. Пакуль ён затрапятаў толькі на Эльбрусе. Але ў перспектыве бясстрашныя нашы скалалазы маюць намер узняць бела-чырвона-белы флаг і на піках Паміра. А на каўказскую вяршыню (чарговы раз) беларускія альпіністы ўзняліся сёлетнім маем. Веснавую экспедыцыю ўзначальваў пакарыцель завоблачных вышынь майстар спорту Л. Лазоўскі.

У камандзе, акрамя вопытных альпіністаў, была і група студэнтаў Мінскага педінстытута замежных моў. Яны зрабілі толькі першыя крокі па вертыкалі і атрымалі права называцца альпіністамі.

— Запаветная мара беларускіх горнапакарыцеляў,—адзначыў кіраўнік Федэрацыі альпінізму РБ, кандыдат медыцынскіх навук Э. Ліпень, — умацаваць наш бела-чырвона-белы флаг на самай высокай вяршыні свету. Каманда да такога штурму гатова.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку» Індэкс 63854. Зак. 1031.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12